# Чытайце кніжкі.

Пра няпісьменных кажуць, што яны цёмныя людзі, сьляпыя. Але ці ведаеце вы, што і пісьменны вельмі часта таксама бывае цёмны і сьляпы? Гэта бывае тады, калі ён застаецца толькі пісьменным і не выкарыстоўвае сваёй пісьменнасьці, ня чытае кніжак.

Нават лепшы вучань у школе, які ўсё вывучае, застаецца цёмным, калі ня будзе чытаць іншых кніжак, апрача падручнікаў. Бо некалькі падручнікаў не дадуць усіх цікавых і патрэбных ведаў. Яны даюць толькі самае галоўнае, неабходнае для таго, каб чалавек сам мог набываць сабе веды з іншых кніжак. А такіх кніжак ёсьць тысячы.

Гляньце вы на маладых хлопцаў, што паступаюць, напр., у унівэрсытэт ці ў тэхнікум. Усе яны скончылі аднолькавую школу, падрыхтоўваліся па аднолькавых падручніках, а тым часам, адны добра вытрымліваюць экзаміны, а другія ня вытрымліваюць. Звычайна думаюць, што ў першых ёсьць нейкія асаблівыя здольнасьці, а між тым ня ў здольнасьцях тут справа, а ў агульным разьвіцьці.

А разьвіцьцё гэта атрымліваецца ад чытаньня розных кніг, газэт і г. д. Хай „няздольны“, апрача вывучэньня, пачне чытаць кнігі, а „здольны“ толькі даканала вучыцца па падручніках—і праз некалькі год будзе наадварот. Нават па надворнаму выгляду, паводзінах вы адразу адрозьніце таго, хто чытае.

Апрача карысьці, чытаньне зьяўляецца яшчэ і надта прыемным заняткам. Колькі цікавага знойдзеш у розных кніжках! Нібы ты стаіш на высокай гары і аглядаеш увесь сьвет.

Мы ведаем, што ня кожны мае магчымасьць чытаць: той кніжак ня мае, той часу. Але пры жаданьні шмат чаго можна дасягнуць.

Шмат вялікіх людзей (напр., М. Горкі) знаходзіліся ня ў лепшых умовах, але выкарыстоўвалі кожную магчымасьць прачытаць кніжку і праз гэтыя кніжкі зрабіліся вялікімі людзьмі.

Пра горад мы ня будзем казаць. Там магчымасьці большыя.

Але і ў вёсцы ёсьць і школьная бібліотэка і хата-чытальня, ды ня рэдка сустрэнеш кнігу ў сяго-таго з суседзяў.

Або хай 20—30 хлопцаў складуць колектыў ды набудуць па аднэй кніжцы. Мяняючыся кніжкамі, кожны прачытае ўсе 20, маючы толькі адну. Пры шчырым жаданьні можна было-б кожнаму набыць у год адну, а то і дзьве кніжкі. Трэба толькі організавацца. Дзеля таго, што кніжкі маюць розную цану, можна скласьціся пароўнаму, а кніжкі разыграць, каму якая прыпадзе.

А якімі цікавымі могуць быць агульныя абгаварэньні прачытанай кніжкі!

А ну, дзе організуецца першы коллектыў чытачоў?

Пішэце, і мы дапаможам вам у выбары і ў выпісцы кніжак.

**Янка Маўр.**

---

ЗЬМЕСТ



Рэдколегія: БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., СЬЦЯПАНАЎ Х., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар А. ПЯКАРЧЫК.

Год выданьня 4-ты.

Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!







| УМОВЫ ПАДПІСКІ: | ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, Орган ЦКЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР. | АДРАС РЭДАКЦЫІ: |
|---|---|---|
| На 1 месяц . . . — р. 20 к. „ 3 „ . . . — р. 60 к. „ 6 „ . . . 1 р. 20 к. | | МЕНСК, Комсамольская, 25. |

**№ 19** **КАСТРЫЧНІК** **1928 г.**




# ШКОЛЬНІК

*Вяне і жоўкне трава,*
*Дзень прамінае мігам.*
*Пуга і торба—бывай!*
*Я пасябруюся з кнігай.*
*Восеньню плешча рака,*
*Гусі у небе снуюцца.*
*Бурныя песьні званка*
*Сёньня у школе пальлюцца.*
*Гучны, задорны званок*
*Радасьці ў сэрцы ня ўкрадзе.*
*Станем мы зноў за старно—*
*Ўпарта вучыцца засядзем.*
*Ціхаю раніцай мы*
*Школу бунтоўна абудзім.*
*Брудную цьвіль абмыць*
*Новыя змогуць людзі.*
*Пуга і торба—*
*Бывай!*
*Я пасябруюся з кнігай.*
*Вяне*
*і жоўкне трава,*
*Дзень прамінае мігам...*

К. ШАВЕЛЬ.



# ЗАПІСКІ ВУЧАНІЦЫ

*Апавяданьне* **А. Грыгор'евай.** *Мал.* **Мурашова.**

*(П р а ц я г).*

**21 лістапада.**

Дзень аб хворым воку Сімы Равінскай...

Клясе вядома, што дурэў з азотнай кіслатой не адзін Шышкоў, як перадавала мне Сіма, але і вучань 7-ай групы Волькенштэйн.

Быў скліканы агульны сход вучняў— спэцыяльна для абмеркаваньня гэтага пытаньня: накшталт таварыскага суда.

Абвінавайцам выступіў Гінзбург. Гінзбург і Волькенштэйн—заядлыя ворагі: абое—актыўныя вучні і абое хочуць перагнаць адзін другога ў грамадзянскіх справах.

Волькенштэйн—старшыня культкамісіі. Каб больш выявіцца самому, ён зьняў амаль усю нагрузку з Гінзбурга, стараўся адхіліць яго ад усіх грамадзкіх абавязкаў. Цяпер Гінзбург з гневам затаіў дух і рашыў, як відаць, адпомсьціць Волькенштэйну.

Гінзбург пусьціў у ход сваё красамоўства,—а гаварыць ён вялікі майстра. Яму дапамагала пацярпеўшая Сіма. Галоўным вінавайцам няшчасьця, па яе словах, быў Волькенштэйн. А Шышкоў... ён нават спачатку быў супроць „частаваньня" Сімы азотным квасам, але пад канец здаўся на ўгаворы Волькенштэйна, які, як быццам, даводзіў, што нічога, акрамя сьмеху, ня будзе, калі дзяўчынка панюхае азотнага квасу.

Да паказаньня Сімы вучні аднесьліся ня зусім даверліва, бо многім вядома, што ў яе з Шышковым вельмі таварыскія адносіны.

Гінзбург, ведаючы аб адносінах Сімы да Шышкова, ні перад чым ня спыніўся, каб дасягнуць свае мэты. Ён пакінуў Шышкова і зусім ачарніў Волькенштэйна, давёўшы яго ўчынак да вялізарных разьмераў.

Гаварыў Гінзбург добра, на словы ня скупіўся, і прамова яго зрабіла на дзяцей вялікае ўражаньне. Учынак Волькенштэйна зрабіўся чуць не дзяржаўным злачынствам. У абурэньні вучні крычалі:

— Прагнаць Волькенштэйна! Вон яго з школы!

У часе прамовы Гінзбурга, абвінавачваемы Волькенштэйн сядзеў цёмны, нейк асеўшы, твар як быццам тросься ад нэрвовасьці.

Некалькі разоў ён ускакваў, як-бы хацеў нешта сказаць. Відаць было, што крыкі вучняў і прамова Гінзбурга зрабілі на яго вялікі ўплыў. Ён увесь дрыжаў.

З трыбуны гаварыла Вера Корнева — абаронца. Гаварыла ўсхвалёвана, горача, бегаючы па сцэне.

— Таварышы! Ці-ж можна так? Што вы робіце? Чаму ўсё складаеце на Волькенштэйна? Шышкоў-жа таксама там быў... Вы кажаце—Волькенштэйн пачынальнік, але-ж і ў Шышкова ёсьць свой розум: ён мог адмовіцца ад гэтых „жартаў", калі-б захацеў. Падругое, доктар кажа, што вока Равінскай не безнадзейнае, яго можна вылечыць. Але хоць-бы вока і ня вылечылі, вы ўсё-ж судзіце вельмі раптоўна, добра не разабраўшыся са справай.

Ці-ж можна так лёгка выдаваць воўчыя білеты! Даючы Волькенштэйну такі білет, вы змарнуеце ўсё яго жыцьцё. Яго нікуды ня прымуць вучыцца,—ён будзе як не чалавек. Падумайце, таварышы, раней, чым рашыць канчаткова.

Прамова Веры відочна пахіснула катэгорычнае рашэньне вучняў. Вучні нашы—куды вецер вее... Пераканаць іх ня цяжка. Але ўсё-ж многія яшчэ знаходзіліся пад уплывам прадмовы Гінзбурга.

Устаў Волькенштэйн і, стараючыся захаваць супакой, скрозь сьлёзы прагаварыў:

— Я вінаваты... але ня так, як абмаляваў Гінзбург... які мусіць рыхтуе сабе

пракурорскую кар'еру... Таварышы, я прашу вас, судзеце мяне справядліва...

Апошнія словы ён ледзь выгаварыў, крута павярнуўся і раптоўна пашоў да свайго месца. Плечы яго заметна дрыжалі... Ён плакаў... На вучняў гэта зрабіла яшчэ большы ўплыў, як усякія словы.

Амаль усе былі на баку Волькенштэйна. На абліччах усіх—спачуваньне.

### 24 лістапада.

Бедны Волькенштэйн. Ён зусім страціў розум.

У школу прымчаўся яго бацька. Страшна хвалюючыся, ён паведаміў, што яго Моня некуды зьнік.

Вучні вельмі занепакоіліся. Усім стала вельмі шкода Моню Волькенштэйна. Настаўнікі таксама занепакоіліся.

Цэлая трагэдыя!

Праз дзень зноў прышоў бацька Моні. Ён супакоіў нас: сын знайшоўся. Яго шукалі па ўсім горадзе і, нарэшце, знайшлі на нейкай глухой вуліцы. Ён быў амаль памешаным.

Цяпер ён ляжыць і ўвесь калоціцца. Выявілася, што Волькенштэйн вельмі нэрвовы хлопец, з хворым сэрцам. Ён вельмі быў узбураны выпадкам з азотным квасам.

Бацька Волькенштэйна гутарыў з доктарам, які лячыў Сімінава вока, і выявілася яшчэ адна дзіўная падрабязнасьць. Доктар сказаў, што вока Сімы зусім здаровае, яна ўвесь час добра ім бачыла, трошкі толькі апалілася века.

Значыцца, Сіма ўвесь час хлусіла і прытваралася! Праз яе толькі дарэмна ўзьнята была гэта бура і амаль не прапаў Волькенштэйн.

Але для чаго гэта патрэбна было ёй? Я гутарыла аб гэтым з Верай Корневай, і мы парашылі, што Сіме проста падабалася іграць ролю „параненай“ ахвяры. Ёй прыемна было на пытаньне настаўнікаў:

— Як ваша вока, Равінская?

Зажмурваць другое, не завязанае вока, схіліўшы галоўку на бок, уздыхаючы, адказваць:

— Ах, я нічога ня бачу!

А аб тым, як гэта ўспрыме Волькенштэйн, яна і не падумала. Гадасьць гэтакая! Вось яе-б я выкінула з школы. Я ня ведаю, як буду з ёю гаварыць пасьля гэтага.



*Выклікаў Рыву настаўнік фізыкі.*

Волькенштэйна ўсё-ж такі вырашана пакараць, каб ён больш не жартаваў з азотным квасам. На тры месяцы яго пазбавілі права голасу і не дапусьцілі да ўсіх грамадзкіх абавязкаў.

Шышкову—тая-ж самая кара.

А Сіме нічога.

### 5-га сьнежня.

Сёньня я хачу расказаць пра хлопчыка Джоні.

Ох, Джоні, Джоні!..

Неяк ня верыцца, што зморany, слабы хлопчык, якога замучылі ўсе капіталістыя сьвету, можа сам замучыць трыццаць восем найздаравейшых вучняў Савецкай Працоўнай Школы.

Аднак, гэта—так.

У Джэка Лондона ёсьць вельмі добрае апавяданьне пад назвай „Забаставаў“ у якім гаворыцца, як нейкі Джоні худзенькі, слабенькі, 14-гадовы хлопчык працуе на заводзе, і як завод выматвае

з яго ўсю сілу. Нарэшце, ён ня вытрымлівае гэткіх зьдзекаў капіталу, кідае завод і сям'ю і ідзе, куды вочы глядзяць.

Джоні змарыўся. Ён ня можа больш працаваць. Ён забаставаў.

У асобе Джоні трэба разумець увесь пролетарыят, а ў асобе гаспадара заводу—капіталістых усяго сьвету. Памоему, даволі прачытаць апавяданьне адзін раз, каб зразумець усю сутнасьць яго і пранікнуцца клясавай сьвядомасьцю. Але наш настаўнік думае інакш.

Спачатку настаўнік прачытаў нам апавяданьне ў клясе. Потым мы прачыталі яго дома. Потым у клясе разьбіралі яго. Гаварылі аб самім Джоні—замучаным, змораным, слабым і да таго падобнае; аб яго матцы—таксама замучанай, забітай, змаранай, хворай; аб сёстрах Джоні і братох—худых, слабых, засмучоных; аб дрэнным кофе, якое ім даводзілася піць кожны дзень. Нарэшце, даехалі мы і да драпежнага тоўстабрухага капіталістага, які сядзіць, нібы труцень, на шыі рабочае клясы і выпівае з яе апошнія каплі поту і крыві. Калі ў апавяданьні не засталося ніводнага неразгледжанага месца, а ў клясе—ніводнага з вясёлым аблíччам вучня, настаўнік сказаў нам:

— Дома вы напішэце пераклад, гэта значыць сваімі славамі, апавяданьне „Забаставалі“.

Чацьверты раз! Чацьверты раз гаварыць аб гэтым няшчасным Джоні, аб цяжкім жыцьці рабочае клясы ў капіталістычных краінах!

Выбачайце, я памылілася: чацьверты раз мы будзем гаварыць аб рабочай клясе ў сувязі з апавяданьнем аб Джоні. А колькі ўжо было розных Макараў, Сьцяпанаў, Аляксееў, розных машыністых, стрэлачнікаў, качагараў, рудакопаў!..

Колькі ўжо было пісьмовых прац на тэму—рабочая кляса і буржуазія, у якіх заўсёды дзеючымі асобамі былі замучаны работай і бясправуем рабочы і тлусты драпежны капітал (накшталт павука).

І мы проста ня ведалі, што рабіць, калі нам гаварылі:

— Напішэце аб рабочай клясе.

— Аб чым пісаць? Новага нічога ня прыдумаеш. І шмат хто проста „зьдзіраў“ з ранейшых прац і ўстаўляў толькі маленькія зьмены.

Прападала ўсякая ахвота вучыцца. Тое, што можна вывучыць за якія-небудзь тры дні, мы вучым два-тры тыдні.

Сумна! Але я павінна зрабіць агаворку. Такі мэтад—мэтад „удзяўбаньня“—мае, зразумела, сваю падставу. Сярод нас ёсьць такія вучні, якім трэба доўга жаваць якую-небудзь ісьціну, пакуль яны, нарэшце, выціснуць з сябе:

— А-а... А-а-а... Разуме-е-е-ею...

Але для больш здольных вучнаў, гэта—страхоцьце! Я адчуваю, што пачынаю тупець, і школа паступова становіцца для мяне не асалодаю, а (за рэдкім выключэньнем) няпрыемным абавязкам.

На ўроках я бязуважлівая, перакідваюся з сяброўкамі запісачкамі, сьмяюся, гутару, каб не памерці ад суму. Дый ня я адна так раблю.

Настаўнікі разумеюць гэта, але памагчы ні чым ня могуць.

Неяк я жалілася Зосе Іванаўне пра сваё дрэннае становішча, і гэта мілая настаўніца сказала мне:

— Ведаю, ведаю. Мы ўсё бачым і нічога зрабіць ня можам. Вось Грышка Шафір дурэе. Ты думаеш, чаму мы так адносімся бязуважна да гэтага? (Грышка першы дурасьлівец у клясе). Ды гэта таму, што мы ведаем, што ён больш здольны за другіх, і дурэе ад таго, што яму сумна.

Так, сумна!..

### 10-га сьнежня.

Мы даведаліся, што з сёнешняга дня пачынаюцца залікі, г. зн. будуць падлічваць работу за ўвесь трыместр. Кожны настаўнік будзе выклікаць вучняў, пытаць і ставіць альбо шчасьлівае „зд“ (здавальняюча), альбо нешчасьлівае „нзд“.

Усе агорнуты страхам. Некаторыя баяцца па зразумелай прычыне: проста таму, што нічога ня ведаюць. Другія непакояцца так—залікі „павінны быць страшнымі“.

Я сяджу за першай партаю, і перада мною адбываюцца найкамічныя сцэны. Вось настаўнік фізыкі выкрыкнуў Рыву Фішзон. Рыва, калі патрэбна адказваць настаўніку, абавязкова чырванее і сароміецца. Гэтак было і сёньня.

Быццам нехта падштурхнуў мяне, і я падказала:

— Рывачка! Скажы, што машыны змазваюцца яшчэ кароўім маслам.

Збунтаваная Рыва паўтарыла:

— І яшчэ... машыны... мажуць кароўім маслам.

Дзякуючы страшэннаму шуму, ніхто не пачуў яе слоў. Нездаволены Рывінымі адказамі настаўнік фізыкі сказаў, што ён яшчэ раз запытае яе. Рыва з засмучоным абліччам села на сваё месца.



*Усе яны працягнулі к нам рукі.*

Трэба сказаць, што ў нас у клясе практыкуецца такая рэч. Настаўнік выклікае каго-небудзь—дапусьцім, Сямёнава—і дае яму пытаньне. Калі гэты Сямёнаў не адкажа яму раптоўна, уся кляса, не даючы вучню апамятацца, хорам адказвае за яго. І ў настаўніка ствараецца ўражаньне, што выкліканы вучань ня ведае таго, што трэба адказваць. А бедны вучань толькі ў тым і вінаваты, што ён трохі больш падумаў, чым магла выцерпець кляса. Робяць гэта вучні, зразумела, не на злосьць—наадварот, яны ад усяго сэрца хочуць памагчы. І колькі настаўнікі не казалі ўсім, што такая дапамога горш зла,—ад гэтага нічога добрага ня вышла. Вучні ніяк ня могуць вытрымаць, каб не падказаць.

Я гаварыла аб Рыве. Выклікаў яе настаўнік фізыкі і запытаўся:

— Якая самая пашыраная сіла на зямлі.

Рыва трохі падумала і ўжо сабралася адказаць, як уся кляса раптам закрычала:

— Сіла цяжару! Сіла цяжару!

Рыва сарамяжна схіліла галаву на бок і гэтак пацешна прамовіла:

— Мне падказалі ўжо...

Усе дружна зарагаталі. А вось яшчэ:

— Фішзон, што робяць, каб зьменшыць церцё машын?

Рыва задумалася. Усе на перабой стараліся адказаць. Падняўся шум. Рыва ўсё-ж такі пасьпела прагаварыць:

— Трэба змазаць дзёгцем. І яшчэ...

Некаторыя вучні, даведаўшыся, што ім пастаўлены „нзд", пачалі плакаць. Тут кожны лічыў сваім абавязкам выказаць некалькі слоў спачуваньня, і гэта яшчэ больш крыўдзіла няўдачнікаў.

Вядуць вучот у нас ня толькі настаўнікі, але і кляса. Настаўнік выказвае сваю думку аб якім-небудзь вучні, кляса сваю, вучотная тройка—сваю. У большасьці гэтыя думкі супадаюць, але бываюць і рознагалосьсі. У такіх выпадках пачынаюць галасаваць, і яно (галасаваньне) вырашае справу.

Пратакол вучоту вядзе вучотная тройка такім чынам. На лінейным лісьце паперы адзначаюцца наступныя графы: прозьвішча, пасьпяховасьць, актыўнасьць, адносіна да работы, хатнія работы, разьвіцьцё. У гэтых графах тройка і робіць тыя ці іншыя адзнакі.

Дзеці нашы—як дзеці. Шмат хто з іх гатоў адзін другога ўтапіць за найменшы праступак. Але, калі абвінавачаны зараве, самі, тыя, што ўскладаюць гэтую віну на яго, хутка мякчэюць, адступаюць назад, самі сабе супярэчаць і таксама гатовы прасьлязіцца. Але вось прышлі залікі—і нішто ня можа быць роўным дабраце гэтых дзяцей. Калі кляса павінна выказаць сваю думку аб якім-небудзь вучні, дык рэдка-рэдка калі не раздасца хорам:

— Пасьпявае! Актыўны! Хатнія працы вельмі добрыя! Да работы адносіцца добра! Разьвіцьцё вышэй сярэдняга! (Рэдка—сярэдняе).

У часе заліку па географіі „рэдкім выключэньнем“ была Ромашвілі, якую ўсе ня любілі. Яе выклікалі да карты, і Зося Іванаўна сказала ёй:

— Знайдзі паўднёва-горна-прамысловы раён.

Ромашвілі, вучаніца 6-ай групы, стала шукаць яго... У Сібіры! Раздаўся хор галасоў, і 37 рук узьляцела ўверх.

Лена! Лена!.. На поўдні шукай!.. На поўдні!.. На беразе Чорнага мора!..

— А, вось дзе!..

І яна паказала ля ўзьбярэжжа Балтыцкага мора!

— Эх, Лена... Дрэнная справа з табою, — пакруціла галавою Зося Іванаўна.—Пакажы вось ты нам, дзе ў нас будзе поўдзень, поўнач, захад, усход?

І вучаніца 6-ай групы адказалася адказаць на гэтае простае пытаньне. Зразумела, ёй паставілі „нзд“. Думаеце, яна пакрыўдзілася? Не! Горда ўзьняла галаву і з сьмелым выглядам пашла на сваё месца. Горш было з Колакалавай. Яна—піонэрка, але мала на яе падобная. Крыклівая, на ўроках заўсёды шуміць, дзёрзка вядзе сябе з настаўнікамі. Да таго-ж яна—вельмі няздольная, і нічога няма дзіўнага, што ў яе па фізыцы слаба. Навука гэта патрабуе кемлівасьці, увагі.

— Адносіны да работы?—ставіцца пытаньне.

— Адносіны да работы неахайныя, няўважлівыя. Відаць, Колакалава ня хоча займацца,—прагаварыў настаўнік.

Твар Колакалавай адразу пачырванеў.

— Няпраўда! Я хачу займацца...—сказала яна.—Хачу... Бацька й матка пацьвердзяць, што я... но-о-чы ня сплю-ю... за-а-а-йма-а-а-ю-ю-у-ся...

Заплакала. Вучні зашавяліліся, зашумелі.

— Так, так, Міхайла Пятровіч! Яна хоча займацца, але няздольная, — адразу зашумела ўся кляса.—Нельга ёй ставіць „нзд“. Здавальняюча! Здавальняюча!

Настаўнік зьвярнуўся да вучотнай тройкі. Член тройкі адказаў:

— Нездавальняюча Колакалавай паставіць нельга, яна многа займаецца і хоча ўсё ведаць. Прадметы ёй даюцца цяжка. Але паставіць ёй „нзд“, зразумела, на гэтай падставе нельга,—вучні перасалілі. Я-б ёй паставіў нешта сярэдняе—слаба.

Зноў узгарэўся дыспут. Пасьля доўгіх спрэчак вырашана было паставіць Колакалавай здавальньюча, але з пажаданьнем—быць уважлівай і да работы адносіцца лепш. Калі-б ня вучотная тройка, настаўнік паставіў-бы ёй нездавальняюча. Вучотная тройка многа памагае настаўніку, калі прыходзіць час вучоту работы.

У канцы трыместру тройка падае настаўніку сабраны матар‘ял; сам настаўнік, бываючы ў клясе 2-3 гадзіны на тыдзень, ня можа так добра ведаць кожнага вучня паасобку, як іх ведае вучотная тройка.

**26-га сьнежня.**

7 гадзін вечару. Скончыліся ўрокі. Але да хаты я ня йду, ня гледзячы на вялікую зморанасьць і напамінаньне аб гэтым пустога жывата.

У школе я з 9-ці гадзін раніцы і дагэтуль нічога ня ела. У школу я прышла вельмі рана (мы займаемся з палова трэцяй), бо трэба гандляваць у копэратыве—у часы заняткаў першай ступені. Ніхто ня хоча займацца гэтаю „міленькаю“ справай, і ўвесь цяжар копэраваньня школьнікаў ляжыць на двух-трох плячах.

Бягу ў школу я вельмі рана. Пакуль там закупім тавар, падрыхтуем бутэрброды, ачысьцім памяшканьне (апошняе, між іншым, не заўсёды пасьпяваем зрабіць і працуем па калені ў сьмецьці), глядзіш—і званок на перапынак!

Вось тут і пачынаецца наша катаржная работа!

Шумлівай, бурнай, нецярплівай гурбой малыя дзеці ўрываюцца ў невялікае памяшканьне коопэратыву, дзе ніяк ня могуць зьмясьціцца ўсе пакупцы. Заднія націскаюць на пярэдніх, пярэднія цісунць на стол, на якім ляжаць тавары, стол лезе на нас, мы — на сьцяну, а з прычыны таго, што сьцяна нікуды не падаецца, дык мы знаходзімся ў самым найгоршым становішчы. Прыпёртыя да сьценкі, мы стаім і ня можам што-небудзь зрабіць для свайго вызваленьня...

А вучні не чакаюць. Усе яны працягнулі к нам рукі, у якіх блішчыць срэбра ці цямнее медзь, і ўсе яны моцна крычаць:

— Дай бутэрброд! Мне простую булку! Пачом абаранкі?

Кожны дзень купляюць малышы, але гэта не перашкаджае ім кожны дзень спраўляцца пра цану на тавары.

— Дай тры цукеркі! Булку з калбасой!

— Абаранак і пяць цукерак! — на ўсё горла крычыць нейкі маленькі „капіталісты“.

Горш за ўсё тое, што ёсьць такія дзеці, якія паціхеньку, карыстаючыся шумам, бяруць усё тое, што бліжэй ляжыць,—зразумела, дармова. Праз гэта і недахваты, — праўда, ня вельмі вялікія. А плаціць даводзіцца нам, гандлярам — мне і Веры, якая загадвае коопэратывам. Пагэтаму павінна быць зразумелым і тое, калі мы ў адказ часта злосна крычым:

— Адыдзецеся!.. Ня крычэце!.. Інакш мы ня будзем гандляваць!.. Чуеце? Коопэратыў зачыняецца!..

Без коопэратыву тугавата нам. Папершае, дзецям трэба сьнедаць, а на вуліцы бегаць за булкаю ня вельмі выгодна— можна і празябнуць, а, падругое, коопэратыў дае прыбытак, які для нашае культасьветнае работы—спасеньне. Усе гурткі жывуць за нашы грошы, за рахунак прыбытку ад коопэратыву. Коопэратыў дапамагае і насьценнай газэце. Коопэратыў абсталяваў сцэну. За грошы коопэратыву набыты: сьцяг, кнігі для бібліотэкі і чытальні, шахматы і шашкі, выпісваюцца газэты і часопісі... ды ўсяго й не пералічыш.

Але, ня гледзячы на ўсе выдаткі, у банку ляжыць яшчэ каля 150 коопэратыўных рублёў!

Не, ніяк нам не абыйсьціся без коопэратыву.

Вось і даводзіцца вытрымліваць усё гэта. Але нічога яшчэ, калі няма занятkaў пасьля ўрокаў. У такім выпадку мы працуем у школе ўсяго ад 10 гадзін раніцы і да 8-мі вечару. Але калі бывае школьны савет (бывае ён раз на тыдзень і цягнецца да паловы дванаццатай гадзіны ночы), тады ў школе даводзіцца быць больш як 14 гадзін.

І ў мяне і ў Веры частыя галаўныя болі і малакроўнасьць. Ненармальнае штосьці.

### 1-ае студзеня.

Ідзе Вера па клясе. Выгляд дзікі.

— Што з табою, Вера? Чаму ты такая ўскудлачаная?..

— Ах, Ганулька! На гэтым уроку нехта ўзламаў замок у коопэратыве і ўкраў 8 рублёў... а я, як загадчыца, павінна адказваць цяпер!..

— Аўгіньня Васільлеўна ведае?

— Ведае, але што яна можа зрабіць!

— Вось бяда!

Праз некалькі хвілін уся школа ведала ўжо аб здарэньні. Вучні, як і трэба было чакаць, зьдзіўляліся, ускрыквалі, вохалі, разьдзіралі шырэй вочы і ўсё задавалі адно і тое-ж надаедлівае пытаньне:

— Хто гэта ўкраў?

На другі дзень Вера падбегла да мяне.

— Ганулі, ведаеш—злодзей знашоўся! Толькі ты маўчы, нікому не кажы. Нядобра, калі вучні даведаюцца яго імя. Гэта зрабіў Асінін...

— Асінін?! Ніяк не чакала, што гэты ціхоня адважыцца на такі ўчынак.

Выявілася гэта вось як. На ўроку рускага, ня пытаючы настаўніка, Асінін вый-

## ПІОНЭРЫ І ВУЧНІ.

Прачытайце ўважліва „Запіскі вучаніцы“. А. Грыгор'ева—вучаніца—у гэтым апавяданьні побуч з іншымі момантамі школьнага жыцьця, закранае і недахопы ў рабоце нашай школы. А недахопаў у рабоце нашай школы яшчэ вельмі многа.

Узяць хоць-бы такія моманты: „вуды“, „нуды“, залікі, клясныя настаўнікі, нячулыя часта адносіны настаўнікаў да вучняў, выпадкі пакараньняў (пабоі, выстаўленьне за дзьверы, выкліканьне бацькоў з мэтай ушчуваньня, пакіданьне „без абеду“ і інш.). Вакол гэтых момантаў ідуць самыя гарачыя спрэчкі сярод настаўніцтва і савецкай грамадзкасьці. Але-ж ад гэтых спрэчак вучням пакуль што не лягчэй.

Мы супроць усіх тых мэтадаў, якія не дапамагаюць выхаваньню, а нясуць за сабою толькі сьлёзы, сум, якія выклікаюць у дзяцей агіду да кніжкі, а не спрыяюць організацыі школьнага колектыву.

Нам, вучням, трэба гэтак-жа сама ўзьнімаць свой голас у абарону ўсяго лепшага ў сваёй школе і супроць горшых, няжыцьцёвых сыстэм і мэтодаў. На сваіх сходах, у гуртках абмяркоўвайце ўсе балючыя пытаньні школьнага жыцьця і шлеце свае прапановы да нас, у рэдакцыю. Мы будзем дабівацца, каб нашы прапановы былі выкарыстаны ў адпаведных органах, якія разглядаюць пытаньні школьнага будаўніцтва.

Слова за вамі!

шаў з клясы. Хвілін праз 20 ён вярнуўся назад, увесь чырвоны і як-быццам напалоханы. Потым вучні ўспомнілі, што адну руку ён увесь час трымаў у кішэні. Калі выявілася прапажа грошай, вучні пачалі ўспамінаць, каго ня было ў клясе. Тут некаторым вучням рэзка кінуліся ў вочы даволі дзіўныя паводзіны Асініна. Яны нікому нічога не сказалі і парашылі праверыць справы. Асінін, відаць, да такіх спраў ня прывык, бо, калі яму вучні задалі некалькі асьцярожных, але вельмі ўдачлівых пытаньняў, ён хутка прызнаўся, што ўкраў грошы.

Вырашана было імя яго нікому не называць. Паставілі пытаньне на вучкоме. Вучні аднесьліся да пытаньня вельмі горача, шмат крычалі, але канкрэтная прапанова была толькі адна:

— Наладзіць агульны сход і няхай Аўгіньня Васільлеўна скажа некалькі цёплых слоў, якія надоўга-б засталіся ў памяці. Яна гэта ўмее. На пэдагагічнай радзе пытаньне паставілі больш сур'ёзна. Мяне там ня было, бо на гэтую раду мае права йсьці толькі адзін старшыня вучкому. Вера потым расказала мне, што настаўнікі доўга спрачаліся, не згаджаліся адзін з другім: адны казалі, што Асініна трэба зусім выключыць з школы; другія — што трэба пакінуць у школе. Нарэшце, большасьцю галасоў было вырашана: прапанаваць бацьком забраць Асініна з школы, бо тут аставацца яму нельга. Ня гледзячы на ўсе асьцярожнасьці, вучні неяк усё-ж такі пранюхалі, хто ўкраў грошы.

Выявіць прычыну, якая кіравала Асініным, калі ён адважыўся красьці гэтыя грошы, так і не ўдалося. Навошта яму патрэбны былі грошы? Бацькі яго зарабляюць добра, і ён як быццам грошай не патрабуе. Незразумела.

У часе вялікага перапынку быў склікаты агульны сход дзяцей. На парадку дня стаялі два пытаньні:

Першае—аб кражы грошай з коопэратыву, другое—аб прапаўшым пальто настаўніка Васіля Іванавіча.

Па першаму пытаньню ўзяла слова Аўгіньня Васільлеўна:

— У нашай школе, дзеці, здарыўся выпадак, якому ня месца ў нашым колектыве, — пачала яна. — Адзін з вучняў узяў з коопэратыву грошай, якія яму не належалі... Гэты вучань...

А вучні закрычалі:

— Хто ён? Скажэце імя, Аўгіньня Васільлеўна!

— Называць няма патрэбы! Усе і так ведаюць!

— Не, скажэце! скажэце!

— Ах, дзеці, дзеці!..—загаварыла Аўгіньня Васільлеўна.—Імя для нас ня так важна. Хай гэта будзе Іваноў, Пятроў, Сідараў,—хіба-ж учынак ад гэтага будзе лепшы ці наадварот? Не, справа ня ў гэтым. Справа ў найстрашнейшым для нас факце праступка. У савецкай працоўнай школе такіх праступкаў быць ня можа, і трэба што-небудзь зрабіць, каб яны больш не паўтараліся.

— Выключыць злодзея!.. Выгнаць яго!..—пачуліся крыкі.

— Што-о? Злодзея? Не, мы ня маем права так называць свайго таварыша. Хіба мы зрабілі што-небудзь, каб выратаваць яго ад гэтага ўчынку. А вы, дзеці, і зарадаваліся: знайшоўся злодзей! Вы гатовы цяпер сказаць, што ён і пальто ўкраў і шахматы. А хто вінаваты?—вы аб гэтым і не падумалі. У гэтым якраз ёсьць наша віна. Не выпадкова-ж ён гэтак дрэнна наведваў школу і яшчэ горш вучыўся. Хіба мы ведаем, што ён робіў у вольны час? З якімі людзьмі ён сустракаўся? Калі-б усё гэта мы ведалі, магчыма, мы выратавалі-б яго ад такога ўчынку. Але мы нічога не зрабілі. А цяпер, калі ўсё гэта здарылася, магчыма, па нашай віне, мы ўсе гатовы кінуць у яго кавалак гразі і крыкнуць яму: „Ты—злодзей!..“

Сход прыціх. Словы Аўгіньні Васільлеўны зрабілі сваю справу. Пачакаўшы трошкі, Аўгіньня Васільлеўна пачала зноў:

— Але з тае прычыны, што ёсьць віна і з яго боку, і віна не маленькая, дык трэба прыдумаць якое-небудзь узьдзеяньне для яго. Вы, дзеці, павінны ведаць, што такія ўчынкі дарма не праходзяць. Аб выключэньні з школы ня можа быць і гутаркі. Школьная рада і вучком вынесьлі пастанову аб тым, каб бацькі яго ўзялі з школы і перавялі ў другую. Хто будзе супроць гэтага?

— У мяне ёсьць дадатак,—устаў Карэцкі.—Добра, што яго перавядуць у

другую школу, але трэба ўсё-ж такі неяк агаласіць яго імя... Трэба, каб усе ведалі, хто ён такі. І другую школу трэба аб гэтым папярэдзіць. Бо ён, чаго добрага, можа і ў комсамол палезьці, калі ніхто ня будзе ведаць яго імя!

Падняўся шум, крыкі. Прапанова Карэцкага выклікала спрэчкі. З-за шуму нічога не разьбярэш. Калі ўсё троха заціхла, слова ўзяла Славінская. Зьвярнулася яна проста к Карэцкаму:

— Ты кажаш, што ён можа „пралезьці" ў комсамол. Я думаю, хто-б ён ні быў, яго з радасьцю прымуць. Для чаго-ж у нас комсамол, калі не для таго, каб выхоўваць і выпраўляць вось такіх, як ён, паказваць ім правільную дарогу. У гэтым і заключаюцца мэты і задачы комсамолу.

Агульны сход: Правільна! правільна!

28 мая.

Сёньня вечар... Апошні раз зьбіраемся ў школе... Апошні раз у гэтым годзе.

Вучняў прышло многа. былі і бацькі. Гэты вечар быў асаблівы, якіх у нас ніколі ня было. На гэты раз парашылі абыйсьціся без афіцыйнай часткі і адразу-ж приступілі да мастацкай.

Усе з нецярплівасьцю чакалі пачатку, бо ведалі, што будзе вельмі цікава. У нас цяпер драм. гуртком кіруе Пётра Міхайлавіч, або, як яго называюць драмгурткоўцы,—дзядзя Пеця. Ён прымусіў усіх інакш глядзець на школьныя вечары. Раней чакалі пастановак ня так ахвотна, бо ведалі раней, што будзе вяла, сумна. Толькі хіба хор...

А цяпер зусім іншая справа. Дзядзя Пеця правёў ужо тры вечары, цікавых, яркіх, жывых. Гэта будзе чацьверты.

Пачуўся званок. Публіка заспакоілася. У зале патух сьвет. Асьветленай засталася толькі адна сцэна.

Дзядзя Пеця сеў за піяніна і зайграў марш. На сцэну адзін за другім выйшлі дзеці і як-бы адчынілі гэтым вечар. Гэта называецца „выхад". Выхад складаецца з пірамід, песьняў, харавой дэклямацыі. Удзельнікі сышлі са сцэны пад моцныя воплескі.

Потым выступіў харавы гурток. Тое, што ён паказаў, перавысіла ўсе нашы спадзяваньні. Вучні ім пляскалі, як шалёныя. П'еска таксама вельмі спадабалася. А джаз-банд (джаз-банда!).

Чаго толькі няма ў ім. Бутэлькі, ручкі, нават кавалак фанэры і старая галёша—усё спатрэбілася! І вышла вельмі добра. А лубок! Лубок—гэта кавалак фанэры, на якой нарысаваны маленькія чалавечкі, куды меншыя за сапраўдных людзей. У тым месцы, дзе павінна быць галава, знаходзяцца дзіркі, у якія ўдзельнікі і прасоўваюць свае галовы, і; прасунуўшы, ні то сьпяваюць, ні то гавораць частушкі на школьныя тэмы.

Усё, што мы бачылі, было творчасьцю саміх дзяцей,—п'еса, лубок, выхад, радыё (рупар, за якім зьмясьціўся Гінзбург і выкрыкваў частушкі). Па „радыё" мы слухалі канцэрт „джаз-банд".

Дзеці былі вельмі захоплены і наперабой ляскалі ў далоні.

Калі вечар скончыўся, пачалі нехаця разыходзіцца. Хацелася яшчэ трохі пабыць з таварышамі. Цяпер-жа ўбачымся ўсе толькі праз тры з паловай месяцы!

— Ну, бывайце, дзеці.

— Да пабачэньня, Сонечка! Пішы! Ты ведаеш мой адрас!

— Таварышы, цішэй! Даводжу да ведама ўсіх, што я жыву ў Маскве... на... Ліза! Ты ў Нінкі? Кланяйся Волзе!

— Усяго, усяго, дзяўчаткі! Бывайце! Да пабачэньня!

Бывай, школа! Да восені!

*(Канец.)*






Міхась быў хлопец утрапёны,
Пляваць яму на ўсе прапоны:
З зямлі дастане, як наважыць,
Украдзе гладка—не заўважаць.
Ня ўхопяць высьпець добра вішні,
Яшчэ красуюцца так пышна,
А ўжо Міхалка іх дастане.
А гаспадар на заўтра рана
Заўважыць толькі кучы лісту,—
А вішні ўсе сабраны чыста.
І ня гурок, ні мак, ні брушка,
Ні гарбузы і не пятрушка
Не прамінуць Міхаські рук—
Усё зьбярэ, хоць не ў пару.
Ён нарабіў ня мала шкоды
У чужых садох і агародах.
А вось мінулым, здэцца, летам
Да Міхалінчыкавых дзеда
Міхась унадзіўся ў садок,—
Упадабаў ён той куток
За бэры сьпелыя—ігрушы,—
Што не адцягнуць было за вушы.
Ніхто й ня бачыць, як ускочыць,
Кішэні грушамі наложыць,
А то й за пазуху з паўшанка...
Не ў галаве старому Янку,
Што бэры смачныя зьнікаюць...
Ды вось аднойчы прыбягаюць
У хату спужаныя дзеці.
Крычаць:—Дзядулька, паглядзеце!
У вас на бэры сядзіць чорт!
— Які там, падлы, будзе чорт?—
Дзед Янка нехаця пытае,
Кажух на плечы апранае.
Прыйшоў у сад, уверх зірнуў,—
На грушы бачыць зьвярыну:
У кашулі, портках чалавечых,
Ды твар як быццам-бы авечы.
Дзед гойкнуў раз ды аглянуўся,
А „чорт“ ані не страпянуўся—
Сядзіць і бэры абірае,
Аж злосьць старога разьбірае:
— Гатоў паесьці усё чыста.
А я хаваў іх да прачыстай!
Міхась на бэры ня ўтрымаўся,
Па чалавечы засьмяяўся.
— Ну, ліха матары, і чорт!
Узяўся дзед калом пароць.
Міхалка бачыць, што ня жарты,
Рашыў—цярпець яму ня варта.
Ён скінуў маску ды з размаху
З вяршочка бэры калі бахнуў!
За маскай—сам з такой-жа вышы
І лёг, як мёртвы, а ні дыша.
— Ато-ж, глядзі, нагналі чэрці,
Яшчэ забіўся мо' да сьмерці?
Ня меў, як кажа той, бяды,
Пайсьці прынесьці трэ' вады“...
Як толькі дзед пайшоў па воду,
Міхась адразу з саду—ходу.
А дзед вярнуўся і злуецца:
Каб улавіў—то-б, здаецца,
Я даў яму такіх-бы бэраў!..
— Чакай, улезеш яшчэ ў нерат:
Памру, а гада прыпільную!—
І дзед схаваўся—сеў пад пуню.
Міхась-жа, вышаўшы на сьценку,
Прайшоўся трохі памаленьку.
Пасьля, ці сьціхла ўсё,—праверыў,
Ды зноў палез на тую-ж бэру.
— Ага, цяпер папаўся, злодзей,
Гуляць з табой у цацкі годзе,—
Вылазіць дзед з калом з-пад пуні.
Міхась з ігрушы зноў як дуне,—
Зваліў і дзеда небараку.
І ў садзе дзед стаяў шчэ' ракам,
А хлопец быў ужо на сьценцы,
Пасьля шмыгнуў дадому ў сенцы.
А Янка, як ні наравіў,—
Ня мог Міхалкі улавіць,
Нарэшце ён прыдумаў пастку:
Акалаціў ігрушы частку,

А пад другой, напяўшы сежу[1]),
Да галіны яе прывесіў.
А сам праз дзірку з пуні сочыць:
— Павінен, падла, туды ўскочыць.
Счакаўшы трохі, йдзе Міхалка.
Памацаваў ён пастку палкай:
— Сюды саскочыць—дык выгода,
Мне сежы новае ня шкода,
Калі й парвецца можа трохі,
Затое мякка будзе ў ногі.
Ён думаў:
— Пэўна сежу сушаць,—
І сьмела ўскочыў на ігрушу.
А дзед тымчасам з кіем—шась!
— А ну, сынок, з ігрушы злазь,
А то калом заб'ю на сьмерць!
— Ня страшна, дзедка, мне цяпер:
Скакаць ня трэба на зямлю,
Вам шкоды мала нараблю,
Не папсую сабе адзежы.
І Міхал—бах! з размаху ў сежу.
Сабраўся ў кучу раптам куль,
Сядзіць Міхась, як у мяху.
— Ага, цяпер дык не ўцячэш,
Вось зазяжу вяроўкай 'шчэ!
І завязаў дзед хлопца ў сежы
Ды на ігрушы той павесіў.
— Вісі вось тут датуль, каток,
Пакуль навучышся садок
Сам насадзіць, хоць небагаты...
І дзед пайшоў паволі ў хату.
Сядзіць Міхалка у бядзе,
А ратаваць ніхто ня йдзе.



Крычаць ізноў-жа ён баіцца:
Узнае бацька—будзе біцца.
Сядзіць—а вечар надыходзіць,
І сонца вунь ужо заходзіць,
А вось і ночка ўжо ідзе,
А ратаваць ніхто ня йдзе.
Жаль агарнуў хлапца—паплакаў.
Пасьля стуліўся, небарака,
І моцным доўгім сном заснуў.
Прачнуўся рана, узгляну́ў,—
Стаіць дзед Янка у саду,
А сын нясе ў вядры ваду.
Дзед Янка стаў капаць у рад.
— Глядзі, як садзяць людзі сад,
Пакуль ня навучышся—ня пойдзеш
Глуміць дабро людзкое,—годзе!
Міхалка голаў павярнуў,
На дзеда злосна узгляну́ў,
Стаў прыглядацца да работы,
Пасьля ўзяла хлапца ахвота:
— Пусьці, дзядулька, памагу,—
Капаць ляпей-жа будзе ўдвух!
— А ты, гунцвод, ты не ўцячэш?
— Ды дзе там—не! Чаго яшчэ...
Глядзіць дзед—хлопца разьбірае,
Аж у ваччу агонь мігае:
Відаць, работу ўпадаў.
Дзед хлопца з сежы развязаў,
У рукі даў рыдлёўку:
Ідзе работа лоўка!
Навучыўся ямкі ён капаць,
Навучыўся гноем абкладаць.
Праз нейкі час, зусім увосень,
Ізноў Міхалку давялося
У дзеда быць (паклікаў, мусіць).
Цяпер садзілі ў ямкі грушы.
Міхась прывязваў іх да палкі.
А ў гэту вясну наш Міхалка
Капаў для саду дома ямкі,
Узяў прышчэпы ў дзеда Янкі
І насадзіў сабе садок.
— Ты-ж даглядай яго, каток,
Праз год ці два дык будуць бэры,—
Сказаў дзед з нейкай фанабэрай.
Міхась садок свой даглядае,
Вадою дрэвы палівае,
Усе прышчэпы папрывязваў.
Каб не зламаў, бач, вецер часам.
Цяпер Міхась нідзе ня лазіць—
Усё садок свой строіць, ладзіць...
Дык, вось, як наш Міхалка дома
Зрабіўся чыстым аграномам.

Г. Асот.

---

[1]) Сежа—рыбацкая вязаная прылада.

# Аб усім патроху.



### Сабачая жылплошча.

На вяроўцы прасушваліся шкарпэткі. Хлопцы рассадзілі ў іх для забавы шэсьць шчанюкоў.

Нельга сказаць, каб такія кватэры былі вельмі выгодны для іх. Асабліва кепска прыходзіцца крайняму леваму. Ён зусім „патануў“ у сваёй шкарпэтцы. (Мал. зьлева).

### Лятаючы чалавек.

Крылаты чалавек быў вынайдзены інжынэрам Антонам Лютцэнам у Вене. Вядома, быў вынайдзены ня сам чалавек, а апарат, які асобнай шрубай прымацоўваўся да маленькага матора і чалавечага цела. На фотографіі паказан сам вынаходца з апаратам (справа).



### Лятучая лісіца.



Сярод рукакрылых, як выяўляецца, ёсьць ня толькі малыя жывёлы велічынёю з кажана (лятучую мыш).

У Індыі, на малайскім архіпэлазе і, асабліва, Аўстраліі ёсьць жывёлы, цела якіх мае даўжынёю каля 45 см. і агульная велічыня растапыраных крыльляў даходзіць да 1 мэт. 60 см.

Такім зьяўляецца явайскі калонх, галава якога крыху падобна на галаву лісіцы, у зьвязку з гэтым і завуць яго „лятучая лісіца“ (гл. мал. зьлева).

Гэтыя рукакрылыя жывуць вялікімі грамадамі і тысячамі накідваюцца на сады, прыносячы вялікую шкоду.

### Параход зьеў поезд.

Гэта здаецца зусім немагчымым, а, паміж іншым, каб вы захацелі праехаць з Бэрліну ў сталіцу Даніі—Копэнгаген, дык вы маглі-б, пры жаданьні, папасьці ў той цікавы поезд „Бэрлін—Копэнгаген“, які частку свае дарогі робіць у труме вялізарнага параходу. Трэба сказаць, што Копэнгаген ляжыць на высьпе і адлучаны ад Эўропы пратокай, якая злучае Нямецкае мора з Атлянтычным акіянам. Цікава, што зрабіць звычайным шляхам бесьперасадачныя чугуначныя зносіны паміж Эўропай і сталіцай Даніі немагчыма.

Аднак, каб не рабіць лішніх і дарагіх перагрузак тавару і пасажыраў з поезду на параход і наадварот, датчане зрабілі вялізарны параход, які перавозіць цераз гэты праліў увесь поезд—30 пасажырскіх і 40 таварных вагонаў. (Гл. мал. справа).



---

**ПІОНЭРЫ І ВУЧНІ,** *ЯК У ВАС ПАШЫРАЕЦЦА ПАДПІСКА НА ЧАСОПІСЬ? ШЛЕЦЕ СВАЕ ДУМКІ НАКОНТ ПАЛЯПШЭНЬНЯ ЧАСОПІСІ.*

---

### Радыё-пудзіла.

Хто-б мог падумаць, што радыё зьяўляецца сур'ёзным канкурэнтам агародных пудзіл? А, між іншым, гэта так. У Нямеччыне садоўнікі і агароднікі досыць пасьпяхова карыстаюцца гучна-гаварыцелямі, як сродкам абароны сваіх садоў і агародаў супроць налётаў птушыных разбойнікаў.

### Чуцьцё казявак.

У апошнія часы ўдалося даведацца, што органы чуцьця ў казявак знаходзяцца не на галаве, а на пярэдніх нагах. Асабліва гэта добра наглядаць на коніках.

### Для 1.000.000 чалавек.

Нью-ёрская тэлеграфная кампанія ўстанавіла ў гавані вялізарны гучна-гаварыцель, які перадае чалавечы голас на паўтары кілёмэтры ў акружнасьці. Такім чынам, мільён чалавек могуць чуць адначасова аднаго аратара.

### Дарога праз акіян.

У Злучаных Штатах Паўднёвай Амэрыкі канчаецца пабудова самай вялікай ува ўсім сьвеце аўтамабільнай дарогі, якая на працягу амаль 200 кілёмэтраў (каля 185 вёрст) праходзіць па акіяну—па мастох, перакінутых з выспы на выспу (гл. мал.).



Будуецца гэта дарога з мэталю, каб паскорыць шляхі зносін паміж Амэрыканскай краінай і выспай Кубай.

# ТАЙНА КАПЕЙКІНАГА БУРАКА

Шаноўныя чытачы! Я зноў буду прасіць вашай дарагой увагі. Натура мая такая, што не магу, каб не расказаць другім, чым жыву сам.

На гэты раз я хачу вам расказаць дзіўную гісторыю аднаго бурака, простага гароднага валоўскага бурака. О, гэты бурак! Каб вы ведалі, колькі клопату было мне з ім, колькі вачэй пракалоў ён „цёмнаму алямэнту“—маім суседзям!

Але канец гісторыі ўжо набліжаецца. Гэта і вымусіла мяне аб ёй расказваць,—здаецца, зьмен ужо ніякіх ня будзе. Тым больш, што мяне трывожыць усё яшчэ адно маленькае сумленьне... Але аб гэтым потым.

У нашай вёсцы адзін толькі я—піонэр. І нікога а ні пылу больш. Усе сяляне завуць мяне „пінаер“, ім цяжка, мабыць, вымаўляць правільна гэтае слова,—на гэтым грунце ў мяне з імі частыя спрэчкі.

Я зьвязаны сам з атрадам, што ў суседняй вёсцы арганізаваны.

Яшчэ ўвесну я ўзяў на сябе сельскагаспадарчае заданьне: вырасьціць за лета бурак. У нас, прызнацца вам, кожны піонэр браў падобныя заданьні, усё гэта, зразумела, было па добрай волі.

Насеньне для свайго бурака я выбраў самае няважнае—валоўскае: такія буракі разводзяць у нашай вёсцы ўсе. Толькі-ж чаго варты яны?!

І вось за сьвіронкам, добра ўскапаўшы зямлю і ўгнаіўшы яе, як расказаў нам на зборы аграном, я пасадзіў свой бурак. Рабіў усё гэта спадцішка, тайком: бо што сказалі-б мае бацькі ды суседзі, каб праведалі яны пра гэта? „Дурны, клёпкі не хапае, рэхнуўся, як у піонэры запісаўся! Хто гэта адзін бурак садзіць? Што-ж за карысьць з гэтага аднаго бурака? Тут тысячы садзіш—і то не растуць!“ Гэтакбы сказалі ўсе пра мяне. А бацька напэўна і папружкі ўсыпаў-бы...

Дзень за днём чакаю я свайго бурака з зямлі. Нецярплівасьць страшэнная. Кожную раніцу бегаю паглядзець, ці ня выскачылі з зямлі першыя лісткі цяўніку?

І нарэшце,—о, радасьць!—бурак пачаў расьці, а я з неаслабнай увагай за ім даглядаць. Чаго толькі ня выдумліваў я—сам сабе аграномам быў. І попелам палdensіваў яго, і разьмешаным гноем авечым, і палоў зямлю ля яго, і абгароджваў... Усё гэта, зразумела, рабілася тайком, бо, ліха яго ведае, а ну-ж макам сядзе?—што тады сказалі-б мне ў вочы пра мой бурак?—Засьмяялі-б.

Аднак жыцьцё мае тайны было нядоўгавечнае. Не такі я ўжо чалавек, каб доўга выносіць у сабе што-небудзь і не пахваліцца другому. Я пахваліўся пра бурак сябруку свайму Мірону. Той, з лёгкай рукі, другому, трэцяму...

Хутка ўся вёска ведала пра маю новую выдумку.

Да рэчы сказаць, у мяне такіх выдумак шмат бывае: то я вятрак зраблю, ростам з мяне, і пушчу яго ў ход, што ўскалане ўсю дзетвару нашай вёскі, то дзеравяны аўтамабіль, што сам едзе—трэба толькі седзячы, пакручваць за ручку, ды мала чаго толькі я не вырабляю. Праз гэта мае выдумкі сталі найпапулярнымі ў вёсцы.

Я ў сваёй вёсцы, прынамсі, як той Ньютон.



*Самі выгадавалі!*



*Добрае жыта ўрадзіла на нашым школьным вучастку!*

Да таго-ж маю новую выдумку перадавалі ўсе адзін другому парознаму. Адны гаварылі, што гэты бурак (а ён ужо за першыя тры тыдні выперадзіў усе буракі, якія калі-небудзь расьлі ў вёсцы) зачараваны, і што гэтыя чары хаваюцца ў маім нібы-та гальштуку (ото-ж, трэба дадумацца да гэтага!), другія, што нібы-та я знаюся з нячыстаю сілай...

Адбою ня было з гэтага часу ў наш агарод. Спачатку я трохі ганарыўся сваім бураком. Але потым вышла ня тое. Мае сябрукі па падгавору старэйшых рашылі згубіць са сьвету мой бурак,—навошта бо ён будзе вёску бунтаваць ды розныя няма-ведама якія чары разводзіць?!

Прышлося крута мне. Начэй не дасыпаю—вартую бурак. Высах бяз сну. Бацька лаецца гэтак сама, кляне мяне. Але вырваць не адважыцца...

Аднаго разу якая прыкрая рэч здарылася! А ўсё бурак вінаваты...

Самы большы суседаў падсьвінак убіўся ў наш агарод... І калі я згледзеў гэта, парсюк ужо зусім занёс лыч над маім бураком... Вірам закружылася кроў у сэрцы ў мяне... І я кулём кінуўся з друкам на парсюка. Ня памятаючы сябе і ад гневу і ад страху за лёс бурака, я стукнуў яму проста па лычы... Як сноп, на месцы гопнуўся ён і нават ня піснуў. А вялікі ўжо быў парсюк.

Ото-ж, воўчае мяса! Так-такі й здох. Здох як на злосьць і мне і майму бураку...

Аж самлеў я, асунуўся пасьля гэтага на месцы. Млосна неяк стала... Потым ачухаўся, апамятаваўся. Што-ж рабіць? Парсюк вялікі—ня выкінеш з агароду. Даведаюцца ўсё роўна. З гарачкі я патрапіў на такую думку: закапаць парсюка... Што мог я другое зрабіць, каб ня згубіць і сябе і свайго бурака?

Дома якраз нікога ня было. Ціханька я поруч з бураком выкапаў вялікую яму і—боўтнуў туды сьвіную тушу.

Гладзенька потым зараўнаваў месца—і ўсё добра. Хоць сумленьне і шчыпле за сэрца, але іншай рады няма.

Жыві, Капейкін, мацуйся! Заданьне павінна быць выканана! Пасьля гэтага здарэньня лёс майго бурака крута пераменіўся. Я сам зусім гэтага не чакаў. На лаўца, кажуць, і зьвер бяжыць. Туша пачала гніць. Ад гэтага бурак сам праз сабе, бяз жаднага майго догляду, аж зямлю дзярэ, гэтак расьце...

Недалёка ад нашай хаты жыве дзіўны селянін. Яго так і клічуць усе: дзівак,— Сымон-дзівак.

Дзівак—дзівак, а часамі і разумнейшы з ім ня справіцца. Тайну майго бурака ён разгадаў пасвоему. „Ня інакш справа ўся ў гальштуку“—многазначна, паці-

хеньку шапянуў ён аднаго разу сваёй жонцы. Ĭ ад гэтай думкі больш не адступаўся. Парваў жончыну чырвоную ў кветкі хустку і зрабіў з яе гальштук. Пасьля гэтага кожны дзень ён, спадцішка ад суседзяў, хадзіў на свой агарод з завязаным гальштукам і даглядаў свае буракі.

Ĭ ўявеце, колькі бяды ён мае цяпер праз гэта! Сымона ўбачылі неяк аднаго разу суседзі ў гальштуку ля буракоў... Усе аж поўзаюць цяпер з Сымона, выдумліваюць на беднага, сьмяюцца. Але пасьля гэтага, усім на злосьць, Сымон носіць чырвоны гальштук! Што лепшага мог прыдумаць ён? Армія піонэраў у нашай вёсцы расьце! Гэта мне падабаецца.

Бурак мой за восень так убуяў, што я ня мог адзін і вырваць яго, а заклікаў на дапамогу аднойчы ўвесь атрад. Атрадам вырваць бурак! О, гэта было надзвычайна цікава і ўрачыста! Уся вёска скаланулася такім дзівам. Хіба-ж жартачкі,—цэлым атрадам вырваць бурак! [1])

[1]) Зразумела, гэта Капейкін падпусьціў тут вобразнасьці. Чытачу трэба думаць, што ня самы бурак вырываць быў закліканы атрад, а праводзіць урачыстасьць з прычыны гэтага важнага здарэньня.

## ДЗЯТКОРЫ!

**Шмат хто з вас просіць прыслаць квіткі для прыёму падпіскі на часопісь. Гэткіх квіткоў вам зусім не патрэбна: навошта лішняя работа. Рэдакцыя раіць усім дзяткорам здаваць сабраную падпіску на бліжэйшую пошту (з паказаньнем адрасоў і тэрміну падпіскі).**

**Пошта вам павінна выдаваць пэўныя спраўкі, што вы выпісалі часопісь і ўнесьлі за гэта грошы. Вось і ўсё.**

У пачатку нашай працы наладзіўся цэлы сход. Нарэшце я пры дапамозе павадыра жывасілам вылупіў бурак.

Ён, аказалася, заважыў тры дзесяткі фунтаў... Каб не парсюк, бурак напэўна не дарос-бы фунтаў на дзесятак, у гэтым я шчыра прызнаюся.

Бурак, зразумела, пайшоў на выстаўку, як адзін з лепшых ва ўсім раёне. Але тайны яго ніхто і дагэтуль ня ведаў.

**Капейкін.**





# КУЛЬТУРНЫ ПАХОД ПАЧАЎСЯ

**Што робіць атрад пры Д. Ч. А.**

*1-ае зьвяно атраду пры Доме Чырвонай Арміі стала культурным шэфам 12 бяспрытульных дзяцей. Праводзіцца праца, каб уцягнуць бяспрытульных у атрад, адцягнуць іх ад п'янства, курэньня.*

*Другое зьвяно гэтага-ж атраду ўзяло на сябе наступны абавязак: рабіць абходы па хатах, дзе жывуць піонэры, каб азнаёміцца з тым, як дзеці жывуць дома,—ці ня кураць, ня лаюцца, падтрымліваюць чыстату, дапамагаюць бацькам, як вучацца, як разьмяркоўваюць свой дзень...*

*3-яе зьвяно зьвязалася з інтэрнатам, дзе жывуць вайскова-служачыя. Тут-жа організаваны гурток няпісьменных, які будзе працаваць пры ўдзеле старэйшых піонэраў. Адначасова гэта-ж зьвяно сочыць за чыстатой інтэрнату, організуе там „чырвоныя куткі“.*

Але гэта ня ўсё яшчэ, што робіць атрад у культ. паходзе. Праводзіцца значная праца з неорганізаванымі дзяцьмі вайскова-служачых: іх, па магчымасьці, уцягваюць у піонэр. атрад, організуюцца для іх кожны тыдзень па нядзелях у памяшканьні Дому Чырвонай Арміі дармовыя кіно-сэансы.

**У паход на няпісьменнасьць.**

Бяз усякага лішняга шуму пачалі атрады Ляхаўскага раёну свой культпаход.

*11 атрад пры Аўтатранспарце організаваў тройку з большых і найбольш разьвітых піонэраў, якія дзяжураць у атрадным клюбе ў вызначаныя часы, дапамагаюць дзецям, якія кепска вучацца ў школах, наладжваюць галосныя чыткі газэт.*

*Атрад пры політэхнікуме наладзіў некалькі вылазак у ЖАКТ'ы, дзе правёў поўны і дасканалы вучот няпісьменных. Некаторыя піонэры політэхнікуму ўзялі на сябе абавязак сваімі сіламі навучыць грамаце частку няпісьменных.*

*Пры базе палітэхнікуму організаваны штаб па пашырэньню дзіцячага друку сярод піонэраў, які вярбуе падпісчыкаў на газэты і часопісі. Да гэтага часу прынята падпіска ад дзяцей на 97 экз. часопісаў і газэт.*

*Піонэры атраду пры Абутковай фабрыцы (Акцябрскі раён) заняліся, па просьбе заўкому, маляваньнем плякатаў і лёзунгаў, накіраваных супроць п'янства, хуліганства, нядбайных адносін рабочых да вытворчасьці.*

*База піонэраў пры МБЧ наладжвае выезд у вёску да падшэфных сялянскіх дзяцей. Для апошніх сабрана шмат кніжак, сшыткаў і іншых пісьмовых прылад.*

**Школы не адстаюць.**

Трэба адзначыць, што культпаход у менскіх школах пачаўся са спазьненьнем, але ўжо ўсё-ж такі пасьпеў даць шэраг станоўчых вынікаў і карысных пачынаньняў. У 5-ай школе, напр., пасьля пэўнай кампаніі, праведзенай фарпостам, каля 100 вучняў хочуць паступіць у піонэры.

*У 9-ай школе завербавана за некалькі дзён 65 падпішчыкаў сярод вучняў на часопісі і газэты. Організавана на добраахвотных пачатках група па барацьбе з курэньнем і някультурнасьцю сярод школьнікаў.*

*Фарпост 5-ай школы парашыў дапамагчы 8-гадоваму хлапцу, сыну дворніка, які ня мог наведваць школу, бо ня меў вопраткі. Задумана—зроблена. Хлопец цяпер у школе. Праводзіцца сярод школьнікаў збор сродкаў на падручнікі, вопратку і абутак для гэтага хлапца.*

*Пры 1-ай школе організавалася з піонэраў група „лёгкай кавалерыі“ па выяўленьню недахопаў школьнага жыцьця.*

*Абвешчан конкурс з прэміяй на найбольш прыкладную ў адносінах чыстаты і акуратнасьці клясу. Рыхтуюцца некалькі платных мастацкіх вечароў для стварэньня фонду дапамогі бяднейшым вучням.*



**Культпаход—не часовая кампанія.**

Трэба адзначыць, што сярод некаторых дзяцей (напр., у 33-й школе), як нам удалося выявіць, існуе думка аб тым, што паход—зьявішча часовае, якое працягнецца каля 2-х месяцаў, а потым усё пойдзе, як было раней.

Культурны паход сярод дзяцей толькі тады апраўдае сябе цалкам, калі ён зьявіцца не часовай кампаніяй, а толькі пачаткам сталай, сыстэматычнай працы па зьнішчэньню нашай някультурнасьці, недысцыплінаванасьці, нядбайнасьці і іншых адмоўных зьявішчаў.

**Павадыр.**



# ВЕРАБЕЙКА КРУЦІХВОСТ

*(Па Юр. Сіраму).*

„А ў верабейкі
Жоначка маленька,
Сядзіць на калочку,
Прадзе на сарочку".
(Народная песьня).

Сьнег белаю пялёнкаю ўкрываў зямлю. Неба было хоць і бясхмарнае, але нішто не прарочыла пра тое, што здарылася на другі дзень. Хоць, праўдзівей, і пачалося яно не на другі дзень, а досьвіткам, перад раніцай.

Павеяў раптам з поўдню лёгкі ветрык, з-за небасхілу ўзьнялося некалькі шэрых ваўністых хмар і, поўныя задумленьня, паплылі яны на поўнач, і зноў неба стала зорным і чыстым. З усходу пачаў ужо чырванець край неба, напамінаючы, што сонца хутка ўзыйдзе. Аж раптам нібы нешта трэснула і прагуло над зямлёй.

Адкуль зьявіўся той гук, нельга сказаць, але стары верабей Круціхвост адчуў яго сваім сэрцам так яскрава, што ня мог чакаць больш ні хвіліны і гукнуў на ўсю клуню.

— Чрр-чрр! Пачалося, прачынайцеся!

Вераб'і, якія разам з ім начавалі ў гэтай будыніне, прачнуліся ад такога закліку і зьдзіўлена запыталі, навошта гэта Круціхвост так рана будзіць іх.

— Пачалося, пачалося!—яшчэ мацней зацырыкаў Круціхвост.—Я чуў, я чуў сэрцам, што пачалося ўжо. Вось прыслухайцеся толькі ўважней.

І сапраўды, таварышы яго адчулі, як сэрца кожнага калоціцца ад пачуцьця нечага цёплага, бадзёрага.

— Ды няўжо гэтак рана, чрр-чрр— няўжо канец лютай зіме?—загаманілі ўсе разам.

— А так, а так, слаўнае таварыства, я чую вясну, я чую, што йдзе яна!—адказаў ім Круціхвост.

Шум запоўніў клуню, а праз якіх дзесяць хвілін увесь гурт вераб'ёў сядзеў ужо на вяршочку старой вярбы і сьпяваў першую прывітальную песьню вясьне, першым праменьням вясновага сонца.

Неўзабаве зямля азалацілася праменьнямі цёплага сонца. Жмуткамі параскідаліся праменьні па белай сьнегавой пялёнцы, і ў поўдзень ужо булькамі пад сьнегам струменьчыкі вады. А пад вечар пачарнела белая пялёнка сьнегу—напілася вады.

— Напэўна ўжо вясна йдзе,—казалі людзі.

Вясна такі і сапраўды прыходзіла, і пра гэта казалі вераб'і сваімі галасамі. Дзень за днём сонца праходзіла па чыстым блакітным небе, і праз тры-чатыры дні відаць было ўжо, што вясна прышла. Сьнегу нідзе ня відаць было, неба стала нейкім глыбейшым, сінейшым і чыстым, нейк адразу зьявіліся на дрэвах пупушынкі, потым разгарнуліся дробныя клейкія лісьцікі, і паветра напоўнілася пахам вясны, якая ўсяму надавала бадзёрасьці і будзіла да руху і жыцьця.

Вераб'і быццам перарадзіліся. Пад камандай Круціхвоста лятали яны з месца на месца і цвыркалі, пра свае справы раіліся.

— А ну, верабейкі, слаўныя канарэйкі! зьбірайцеся ў гурт, буду вам параду даваць!—загукаў Круціхвост.

— Рады, рады паслухаць!—зацвыркалі вераб'і.

— Вясна прагнала ўжо нашага лютага ворага—зіму. Мы першыя прасьпявалі прывітаньне ёй, першыя адсьвяткавалі прыход яе, а цяпер, слаўнае таварыства, час і за справу брацца, пра гнязьдзечкі для дзетак сваіх дбаць. Умывайцеся, прыбірайцеся і работу пачынайце,—прамовіў Круціхвост і першы пырхнуў пад гумно, якое стаяла воддаля ад двара.

Затрапяталіся верабейкі, крылцамі ўдарылі па вадзе так, што аж кружочкі пайшлі. Трапечуцца, купаюцца, весяліцца пасьля лютай зімы зьбіраюцца. Пакупаліся, зацырыкалі і разьляцеліся. А на другі дзень ужо ўсе пазнаходзілі сабе пары, і кожны з сваёй вераб'іхаю пачаў рабіць сабе гнязьдзечка для дзетак.

Знайшоў сабе пару і наш верабей Круціхвост. Узяў сабе жонку пекную і стройную. Праўда, ня ўмела яна ні шыць, ні прасьці, але затое ўмела з сваім мужыком зрабіць цёплае гняздо пад страхою ў аднаго гаспадара.

З самага ранку і да вечара лятаў Круціхвост з вераб'іхаю, зьбіраў салому, пер'е воўну і масьціў гнязьдзечка. За працаю іншы раз і пад'есьці ня было калі. Выхапіць дзе-небудзь зерня-другое або насеньня каліва, зглыне борзьдзенька і зноў за работу.

Праз некалькі дзён гнязьдзечка было гатова. Зьнесла вераб'іха пяць рабенькіх яечак і села на іх грэць сваім целам, каб выведіся маленькія вераб'яняты.

Сядзіць яна ў гнязьдзечку, не зварухнецца, хіба на хвілінку сяды-тады вылеціць, каб чаго-небудзь зьесьці, а поруч з ёю сядзіць Круціхвост, цвырыкае ды расказвае ёй розныя апавяданьні, каб не сумавала яна. Пра ўсё, пра ўсё апавядае ён весела, толькі, калі ўспомніць пра людзей ды пра катоў, робіцца сумным, нібы яму штосьці ў сэрца заколе, нібы нейкую бяду чуе. У такіх разох ён заўжды канчае сваю размову словамі:

— Сьцеражыся, мая любая, людзей, а найбольш дзяцей—ворагаў нашых лютых.

— А чым мы іх угнявілі, што яны да нас так варожа адносяцца?—скажа на гэтыя словы вераб'іха.

— А спытайся ты ў іх. Кажуць, што мы зладзюгі, што абкрадаем іх, ядзім тое дабро, якое прыдбаў сабе чалавек.

Аж крыльцамі затрапеча вераб'іха.

— Няпраўда, няпраўда, —закрычыць яна,—не дабро крадзем іх мы, а бяром толькі тое, што нікому не патрэбна, дый то не заўсёды.

— Гэта ты так кажаш, але ня так думаюць людзі. О, я ўжо іх ведаю добра. Не адзін год жыву пасуседзтву з імі,—адказвае Круціхвост.

Вераб'іха, жонка яго, была яшчэ маладая, а таму й ня ведала, чаму так гаворыць пра людзей Круціхвост.

— А можа ты на людзей гэта дарэмна так абураешся,—сказала яна неяк пасьля размовы такой,—можа яны ўжо й не такія ворагі для нас?

— Ой, не кажы, мілая, я іх добра ведаю: даліся яны мне ў знакі.

— І табе нават?

— А так.

— А мне здавалася...

— Што мяне не чапалі? О, не, жыцьцё маё ня соладка прайшло. Шмат-а-шмат меў я ўсялякіх здарэньняў.

І верабей пасьля такіх слоў раптам цырыкнуў і змоўк, нібы ўспамінаючы мінулае.

— А цікава ведаць, як ты жыў да спатканьня са мною,—сказала вераб'іха.

— Ты хочаш ведаць? Ну, дык я магу табе расказаць; гэта будзе для цябе цікава, а можа й карысна.

І верабей Круціхвост пачаў:

— Было нас у бацькі шасьцёра, на сьвет белы зьявіліся мы сьляпымі і голымі, як і наогул усе нашы родзічы. Няпрыемна было адчуваць сябе нейкаю нікчэмнасьцю, няздатным ні лятаць, ні бачыць, што робіцца кругом нас. Непакоіла нас і тое, што ня можам мы самі сабе здабываць яду. А есьці хацелася. Ох, як хацелася! Усяго толькі і думкі было, каб што-небудзь зьесьці. „Естанькі хочам, естанькі",—толькі і чулі ад нас бацькі. Кожную хвіліну прылятаді яны да нас і прыносілі смачных чарвякоў і камароў, а мы адзін перад другім выцягвалі свае шыйкі, разяўлялі дзюбкі і хапалі тое, што прыносілі нам бацька ці матка. Здавалася, усё, што яны прыносяць, сам-бы зараз зьеў, але яны гэтага не дазвалялі. Заўсёды пораўну і па чарзе давалі яны нам. Гэтулькі чарвей, кузурак, матылькоў пераносілі яны нам, што й пералічаць немагчыма. Ад ранку і да вечара насілі яны яду, не адпачываючы, і не маглі нас задаволіць. Толькі, калі ноч укрывала зямлю, сьцішаліся мы і засыналі пад цёплымі крыльцамі маткі.

Праз які тыдзень мы ўпяршыню прадралі вочы і ўбачылі, што ў гнязьдзечка, дзе мы сядзелі, прабіваецца цэлы сноп сьвятла. Сьвятло гэта шчыкатала нас і заахвочвала скокнуць з гнязда ды скупацца ў ім. Я, мусіць, быў найстарэйшы і ня мог вытрымаць. Расправіў свае крыльцы, якія ўжо трохі з большага апарыліся, і хацеў ляцець. Але якраз у гэту хвіліну прыляцела ў гняздо матка. Ой, як яна напалохалася ад майго ўчынку і як разгневалася!

— Дык гэта ты так?—закрычала яна. І пачала лаяць за тое, што без яе дазволу хацеў уцячы з дому.




— Ды цябе-ж там адразу зьядуць каты або замучаць хлопцы, калі вылезеш з гнязда,—скончыла яна сваю доўгую прамову.

— А цябе-ж вось ня ловяць,—адказаў я на яе словы.

— Дурны ты: я лятаць магу і не падпушчу да сябе сваіх ворагаў.

— Я думаў, што як вылезу з гнязда, дык і палячу.

— Крыльцы яшчэ ня вырасьлі, блазнота.

Матка такі была вельмі разгневана, і я больш не пярэчыў ёй. А яна загадала нам сядзець і ня вылазіць, аж пакуль не падрастуць крыльцы і пакуль яна сама нас ня выведзе з гнязда.

Паляцела яна. А сьвет вабіў да сябе, але трэба было слухацца загаду матчынага. Але, калі ўжо раз убачыў сьвятло, цяжка было ўстрымацца, каб ня імкнуцца да яго, і я цешыў сябе хоць тым, што вылазіў на краёчак гнязда. Высоўваў галаву і пазіраў, што робіцца навокал. Перада мною адчынялася бязьмежная прастора сьвету.

Скрозь кіпела жыцьцё, лялалі камары, птушкі, матылькі. Да ўсіх я аклікаўся або з прывітальным словам, або з просьбаю даць мне паесьці.

Але на мой заклік ніхто не адгукаўся: кожны быў заняты сваімі справамі. Калі набліжаліся да гнязда бацька ці матка, раптам хаваў я галаву, залазіў у гняздо і сядзеў ціханька, аж пакуль яны зноў зьнікалі. А потым зноў вылазіў і цікаваў за ўсім. Люба было мне цікавіцца і жывымі стварэньнямі, і дрэвамі, якія стаялі, пакрытыя зялёнымі лісточкамі, ды забаўляліся з ветрам, і на зялёную травіцу, што ўсім нізка кланялася. Але скора здарылася такая бяда, што страшна праяе і цяпер успомніць. Неяк сядзеў я і, як звычайна, любаваўся сьветам. Ды вось зьнянацку прамільгнула нейкая цень перад маімі вачыма. Штосьці ўдарыла мне ў галаву, пацямнела ў вачох, і, не памятаючы сябе, скокнуў я ў глыб гнязда.

Апамятаваўся я, калі ўжо сядзела ля мяне матка і бедавала.

— Што, што здарылася?—запытаў я слабым голасам.

— Дзетачкі мае любыя, крошачкі мае даражэнькія, сядзеце ціхутка, мае любяткі,—тужыла матка.

Я зразумеў, чаго яна тужыла: з шасьц ярых асталося нас толькі трое. Зладзюга кот зьеў трох маіх братоў. Найбольш у тым, вядома, быў вінаваты я, бо калі-б ня ўбачыў мяне кот, дык і браты мае былі-б жывымі. Якім чынам я не папаў пад пазуры катовы—і дагэтуль не разумею.

На нейкі час пакінуў я сваю прывычку лазіць на край гнязда. Але не надоўга. Праз якіх пару дзён я ўжо зноў сядзеў на краёчку сьценкі гнязда і пазіраў на сьвет. І зноў наклікаў праз гэта бяду на сябе.

Зроду я ўдаўся хлопцам вельмі сьмелым, гэта часта казалі мне бацькі. Нікога не прапускаў я, каб не закрануць яго, да кожнага хацелася адгукнуцца,— і да птушак, і да людзей.

Гэтак было і ў той раз. Праходзілі ля гнязда нейкія два хлопчыкі. Ня стрымаўся я і давай да іх аклікацца. Звычайна, і раней было так, што аклікаўся я на людзей, але яны не зьвярталі на мяне ўвагі, але гэтыя два, пачуўшы мой голас, спыніліся і пачалі глядзець на мяне.

— Ты глядзі, які сьмелы!—сказаў адзін з хлопцаў.

Гэта мне надало яшчэ больш сьмеласьці, і я пачаў цырыкаць на ўсё горла, не заўважаючы, што яны робяць. Толькі тады апамятаўся я, калі працягнулася да мяне вялізарная рука і ўхапіла ў свае кепці. Страх нявымоўны ахапіў мяне. Колькі сілы было, страпянуўся я, вырваўся з рук і паляцеў старчма ў густую траву. Думка ляцець як мага далей была дарэмнаю. Крыльцы ня слухалі мяне, і я заблытаўся ў траве.

Калі ўжо ўсё заціхла, узьняў я галаву і пацікавіўся наўкола. Кругом было ціха. Голад і жах мучылі мяне, і я пачаў горка плакаць ды скардзіцца на сваю ліхую долю. Мой голас пачулі бацькі і пачалі кружыцца ля мяне.

— У гняздо яго, у гняздо,—казаў бацька, але словы гэтыя былі дарэмнымі: не маглі яны перанесьці мяне ў гняздо.

Некалькі дзён прасядзеў я на тым месцы, дзе ўпаў, і бацькі гадавалі мяне, як і раней, толькі прылятаі часьцей. Выявілася, што я застаўся адзін, і ўсю ўвагу цяпер зьвярнулі яны на мяне. Якая доля спаткала маіх двох братоў, я й дагэтуль ня ведаю. Напэўна, замучылі іх тыя хлопцы. Праз які час пачаў я трохі падлятаць, а іншы раз дык і чарвячка сабе ўжо мог злавіць. Бацька й матка заўжды былі ля мяне, яны вучылі мяне, як трэба на сьвеце жыць.

Калі ўжо зусім адрасьлі ў мяне крыльцы, пазнаёміўся я з сваімі родзічамі, маладымі вераб'янятамі і з імі бавіўся ўвесь час. Прызнацца, гэта быў найлепшы час у маім жыцьці. Улюбёным нашым месцам было заросшае рознымі кустамі папялішча. Забаўляліся мы там пад доглядам якога-небудзь старога вераб'я, а бацькі нашы мала ўдаваліся ў нашы справы. Яны цяпер адпачывалі і папраўляліся пасьля вялікай працы, пакуль нас давялі да розуму. Ды нам было й лепш, што бацькі ня з намі. У забавах я вёў заўсёды перад; ніколі ні хвілінкі не сядзеў ціха, і праз гэта мяне празвалі Круціхвостам. Іншы раз, калі ўжо мы зморымся і суцішымся ў кустох, падлятаў да нас хто-небудзь з старэйшых і навучаў розуму. Шмат чаго ад старэйшых даведаліся мы. Ведалі, колькі ворагаў у нас, як сьцерагчыся ад іх. А ворагаў тых і сапраўды шмат: і драпежныя птушкі, як, напрыклад, каршуны, драпежныя зьвяры і каты лютыя,—усё налятае на нас, каб злавіць і зьесьці. Ад гэтых ворагаў хаваемся мы, але не наракаем так, як на людзей; усе яны ловяць нас таму, што хочуць жыць і есьці, а за вошта нас ня любіць чалавек, гэтага мы і ня ведаем. Хіба-ж мы не зарабілі таго, калі часамі ўхопім якое-небудзь зерня? Тыя чарвякі, што зьнішчаем мы, больш нарабілі-б шкоды людзям...

Я сам чуў пазьней, як людзі скардзяцца на ўсялякіх чарвей і вусеняў, якія псуюць у іх дрэвы і іншыя расьліны. А хіба-ж мы ня нішчым тых людзкіх ворагаў? Калі-б ведалі людзі, колькі мы зьядаем у дзяцінстве ўсялякіх чарвей, дык не наракалі-б на нас, а асьцерагалі, як сваіх найлепшых сяброў. Але, на жаль, ня хочуць яны зразумець гэтага.

А ўсё-ж калі-небудзь даведаюцца. Будзем чакаць.

А тымчасам слухай далей пра маё жыцьцё.

Кожны дзень, як толькі зайдзе сонца, ляцім мы з папялішча ў кусты і там начуем, а калі толькі сонейка ўзыдзе, пачынаем цырыкаць, шукаць сабе яду і забаўляцца. Цяпер ужо мы ня елі чарвей і вусяней. Да іншай яды цягнула нас. Зерняты, насеньне з траў—гэта было нашаю найлепшаю справаю.

Пачалося жніво, касьба, малацьба. Скрозь шчодрая прырода раскідала для нас спажыву—і ў палёх, на іржэўніках, і па дарогах і ў агародах.

Пад'ядзім і зноў на пагулянкі. Забаўляемся сабе сьмела, бо ведаем, што сьцеражэ нас добры вартаўнік. Сядзіць ён дзе-небудзь над намі на самым вяршочку куста ці дрэва і сочыць, ці няма дзе якой небясьпекі. Як толькі заўважыць што нядобрае, адразу-ж падасьць голас.—Чрр-чык!—крыкне,—хавайцеся як мага хто куды! І сам каменем кідаецца вобземлю ў кусты, а на тым месцы, дзе сядзеў ён, ужо кружыцца з гострымі пазурамі каршун і толькі дзівіцца сваімі злоснымі вачыма, дзе падзелася ахвяра?

Гэтак праводзілі мы цэлае лета. Прышла восень. Пажоўкла лісьце на дрэвах. Чародамі птушкі плывуць на далёкі поўдзень, каб перачакаць там лютую зіму. Цяжка і нам зімою. Менш ужо бывае яды. Не да забаў ужо цяпер нам, трэба шукаць яду. Прыдзе яна, лютая зіма, засыпле, замяце зямлю, закрые ўсё халоднай коўдраю, дзьмухнуць лютыя ветры халодныя—і холадна, і голадна. Шмат нашага брата гіне ў лютыя маразы. Тулімся да будынкаў людзкіх, ды ня любяць нас людзі, праганяюць ад сябе.

Хоць і цяжка было, але неяк перазімавалі мы першую зіму, перабедавалі, дачакаліся вясны. З якою-ж радасьцю віталі мы прыход яе. Усёй грамадою быў я абраны за вартаўніка над цэлаю чарадою вераб'ёў. З таго часу кожны год я і асьцерагаю нашу вераб'іную дзяржаву.

Нейкі час Круціхвост маўчаў. Хацеў яшчэ расказаць табе пра адну прыгоду, як я быў у людзей у палоне, у клетцы, але ня ведаю, ці будзе гэта цікава.

Вераб'іха хацела ўжо прасіць, але раптам устрапянулася і радасна закрычала:

— Дзетачкі, дзетачкі!

Круціхвост пачуў з-пад яе слабенькі піск вераб'янят, якія вылупіліся толькі што з яечак.

— Ну, трэба выгадаваць,—прамовіў ён,—бо напэўна зноў давядзецца быць вартавым.

Радасна затрапятаў ён крыльцамі і пырхнуў шукаць для дзетак на спажыву чарвячкоў.



*Піонэры ў вёсцы.* З мал. **Владзімірскага.**

# Як вылечыцца ад каросты.

Кароста вельмі пашыраная хвароба ў рабочым і сялянскім быце. Кароста перадаецца непасрэдна ад хворага к здароваму. Каростай можна заразіцца таксама і ад хатніх жывёл, як, напрыклад, ад коняй ці сабак.

Заражэньне адбываецца ў большасьці тады, калі здаровыя разам з хворымі сьпяць ці карыстаюцца адным ручнікам і ядуць з аднэй міскі.

Сутнасьць гэтай хваробы ў тым, што ў скуры хворага чалавека ці жывёлы знаходзяцца такія паразыты (кляшчы), якія пракладаюць сабе вялікія праходы даўжынёю ў некалькі сантымэтраў. У гэтых праходах самкі гэтых кляшчоў кладуць свае яйкі. З яек вырастаюць у працягу 12 дзён новыя кляшчы. Кляшчы і іх вылучэньні раздражаюць клеткі паверхні скуры. Ад гэтага зьяўляецца вялікая колькасьць вадыроў (балячак).

Усю сваю шкодную работу ў скуры клешч праводзіць, галоўным чынам, уночы, у той час, калі хворы сьпіць. Уночы ў хворага пачынае вельмі сьвярбець скура, і ён разьдзірае здаровыя вучасткі скуры. Дзякуючы гэтаму, праз кіпці кляшчы пераносяцца на сьвежыя царапіны, у якіх потым утвараюцца новыя праходы. Такім чынам, у далейшым усё больш і больш заражаецца скура. Каросьлівы клешч мае свае аблюбаваныя месцы, як, напрыклад, паміж пальцамі рукі, каля грудзей, пад пахамі, на ўнутраным баку ног і г. д. У некаторых выпадках кароста пашыраецца на ўсё цела. Некаторыя вёскі мучацца ад каросты на працягу шмат гадоў. У некаторых сялян кароста так паразьядае рукі, што сяляне завязваюць пальцы, каб ня так разыходзіліся шчыліны.

Гэта не пераўвялічэньне, а горкая сапраўднасьць.

Аб такім канкрэтным здарэньні пісалася ў „Беларускай вёсцы“ (Кузьмічы, Любанскага раёну, Бабруйскай аокр.).

### Як-жа трэба лячыцца ад каросты?

Калі хваробы не запусьціць, а ў свой час пачаць лячэньне, дык можна вельмі лёгка і хутка вылечыцца.

Дзеля гэтага трэба: уціраць у хворыя месцы ўсім вядомую вількінсонавую мазь. Уціраць трэба на ноч у працягу 2-х, 3-х сутак.

У часе ўціраньня ня трэба мяняць бялізны. Пасьля такога курсу лячэньня трэба хворага добра вымыць у мыльнай ваньне і адзець чыстую бялізну. За апошні час пачалі практыкаваць новыя спосабы лячэньня каросты.

Хворага зьмяшчаюць у сухі нагрэты пакой і там яго мажуць каросьлівай мазьзю. Пад уплывам высокае цяплыні скура разаграецца, дзякуючы чаму ўсе скураныя складкі пашыраюцца і мазь праходзіць ва ўсе праходы, якія зрабілі сабе кляшчы. Акрамя гэтага, самі кляшчы іншы раз ад высокай тэмпэратуры гінуць. Пасьля гэтага хворы зноў мыецца ў мыльнай ваньне, выціраецца чыстым ручнікам, абсыпае хворыя месцы талькавым парашком. Пасьля ўсяго гэтага хворы апранае чыстую бялізну і адзежу.

Але лепш захаваць сябе ад заразы, чым яе лячыць. Самы лепшы спосаб захаваць сябе ад заразы—гэта чыстата, і больш нічога. Кожны тыдзень трэба мыцца ў лазьні, мяняць бялізну і мыць рукі.

Там-жа, дзе няма лазьні, сяляне амаль усе дзесяткі гадоў мучацца ад гэтай хваробы, як, напр., у вёсцы Кузьмічы.

На вялікі ажль, трэба прызнацца, што ў такіх выпадках большая доля віны падае на вясковага культурнага работніка. Як настаўнік, так і доктар і ўсякі культурны работнік павінны ўсялякім чынам растлумачваць селяніну вялікую важнасьць і патрэбнасьць лазьні.

Акрамя таго, культурны работнік вёскі павінен усяк дабівацца перад пэўнымі органамі аб водпуску патрэбных сродкаў і лесу для будоўлі такіх лазьняў. Бо лазьня ў вёсцы—гэта вельмі вялікае культурнае дасягненьне.

Доктар **М. Сандамірскі.**



# КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ.

### Сакрэтны атрамант *).

Узяць 10 грам жоўтай, кравяной солі і распусьціць у 100 кб. снм. вады. Гэтай салёнай вадою можна пісаць, як звычайным атрамантам. Каб праявіць напісанае на паперы, трэба тое месца, дзе пішацца, памазаць кісткаю альбо анучкаю, якую трэба абмачыць у растворы—10 грам. хлёрнага жалеза ў 25 кб. снм. вады.

### Як адчыніць бутэльку з шкляным коркам.

Вельмі часта бывае, што бутэлька, якая зачынена шкляным коркам, не адчыняецца, што-б вы ні рабілі з ім.

Дзеля таго, каб выняць шкляны корак, трэба трошкі нагрэць рыльца бутэлькі ў полымі сьпіртоўкі, ўвесь час хутка пакручваючы бутэльку. Пасьля такога награваньня корак лёгка вымаецца.

*) Чарніла.

### Клей для мэталю і шкла.

Трэба разьвесьці ў вадзе сталярскі клей. Зьліць лішку вады і да гэтага прыбавіць чацьвертую частку па вазе гліцарыну альбо патакі, прычым прымешваць гэта к клею трэба пры слабым награваньні.

### Як скарыстаць зломаны нож.

Калі ў сталовым нажы адламаўся канец, дык гэта ня значыць, што нож трэба выкінуць. З астатка нажа можна зрабіць добрую стамеску. Для гэтага трэба завастрыць канец. На тупым-жа баку нажа



маленькім трохкутным напільнікам можна зрабіць зубчыкі,—атрымаецца маленькая нажовачка, якая можа спатрэбіцца для рэзкі мэталю, невялікіх цьвікоў і г. д.

ЦАНА 12 кап.

# ПАДУМАЙ!

## Менш паваротаў.



Адзін завод падзяляецца на дзевяць карпусоў, якія пабудаваны па тры ў рад. Дырэктар кожнай раніцай абыходзіць усе карпусы. Які ён павінен выбраць шлях, каб зрабіць як мага менш паваротаў.

## Ці правільна гэта?

Адзін рабочы, які рэзаў дошкі для паркету, павінен быў напілаваць некаторую колькасьць квадратаў з дрэва. Каб упэўніцца, ці правільную форму маюць яны, ён рабіў так: вымяраў усе чатыры часткі, якія атрымаліся ад дзяленьня



дыяганалямі квадрата, і калі гэтыя часткі былі роўныя, то ён лічыў, што квадрат правільны.

Як вы думаеце, правільна гэта праверка?



## Задача з арэхамі.

Адзін раз настаўнік пасьля ўроку паклікаў да сябе вучняў, расклаў на стале як папала грэцкія і валоцкія арэхі (гл. рыс., дзе чорнымі кропкамі паказаны валоцкія арэхі, а белымі квадрацікамі— грэцкія) і, зьвярнуўшыся да вучняў, сказаў: „Вось тут на стале вы бачыце трыццаць адзін грэцкі і трыццаць адзін валоцкі арэх, па бакох стала я зраблю рыскі (гл. рыс.). Правядзеце крэйдаю цераз гэтыя рыскі простыя лініі так, каб уся паверхня стала была падзелена на



трыццаць адзін розных кавалкаў. У кожным з кавалкаў трэба, каб было па аднаму грэцкаму і аднаму валоцкаму арэху. Хто з вас зможа рашыць гэту задачу?

Можа зможаце вы, чытачы, дапамагчы гэтым вучням рашыць задачу?



1-я друкарня БДВ. Заказ № 42—1250. Галоуўлітбел № 67.